# МІЖНАРОДНАЯ ХРОНІКА

Здымкі Союзфото



Начныя манэўры ў г. Кіле (Нямеччына). Лінейны карабель „Шлезін" выяўляе пры дапамозе моцных пражэктараў „варожую" паветраную эскадрылью. Пушкі карабля бяруць „ворага" пад абстрэл.

Забастоўку маракоў у Голяндыі падтрымалі ангельскія маракі. Яны прынялі захады, каб перашкодзіць магчымым спробам судаходных кампаній адправіць свае судны пад ангельскім сьцягам. Галяндзкі салдат купляе забастовачны бюлетэнь.





— Памятайце, містэр Сьміт, на гэты раз Японія заказала уна толькі швэйныя машыны. А што гэтыя машыны зноў аказаліс кулямётамі, вінавата толькі дыфэктыўнасьць канструкцы 3 ням. часопісу „Сімпліцысымус"



Гэтаму шчасьліўцу няма чаго баяцца забароны. Ён можа крычаць толькі „ІЯ" („ія" па-нямецку — так). [З нямецкага часопісу „Сімпліцысімус"

Артылерыя мангольскай народнай арміі на парадзе. Г. Улан Батор. Манголія.



Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЕВІК

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ
САКРАТАР Я. ШАРАХОЎСКІ
АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

ЛІСТАПАД № 22 1932

## ЗА ПАВЫШЭНЬНЕ ЎРАДЖАЙНАСЬЦІ САВГАСНЫХ І КАЛГАСНЫХ ПАЛЁЎ

Царская Расія пакінула нам адну з праклятых спадчын—ізкую ўраджайнасьць сельскай гаспадаркі. Па становішчу раджайнасьці Расія стаяла ў апошніх шэрагах сярод капіга-істычных краін. Ва ўмовах прыватнай уласнасьці на зямлю, аздробленасьці, праспалосіцы—нельга было павышаць ура-жайнасьць. Умоў для павышэньня ўраджайнасьці у масавым аштабе—ня мае ніводная капіталістычная краіна. Наадварот. 'сё узрастаючы жорсткі эканамічны крызіс капіталістычнай аспадаркі, і ў тым ліку сельскай гаспадаркі, робіць немагчы-ым павышэньне ўраджайнасьці.

Зусім адваротнае становішча ў нас—у краіне пралетарскай ыктатуры. 15 год пралетарскай дыктатуры не пакінулі ні-эга, што было характэрнага для старой расійскай вёскі. корані перароблен сацыяльна-эканамічны твар нашае вёскі. *эльская гаспадарка Савецкага Саюзу канчаткова замаца-ілася на сацыялістычным шляху.* У рашучай барацьбе контррэвалюцыйным трацкізмам, з правым і „левым“ апар-нізмам наша партыя пад кіраўніцтвам ЦК, на чале з пра-дыром партыі т. Сталіным, вырашыла самую цяжкую зада-—задачу паварота працоўнага сялянства на сацыялістычны іях. Гэта перамога сусьветна-гістарычнага значэньня—да-гнута.

*СССР з краіны дробнай сельскай гаспадаркі ў мінулым ператварыўся ў краіну самага буйнага сацыялістычнага земляробства ў сьвеце.* 80 проц. усёй пасеўнай плошчы знаходзяцца ў руках сацыялістычнага сэктару. У асноўных збожжавых раёнах савецкай краіны кулацтва ліквідавана як кляса.

Буйнейшыя посьпехі дасягнуты ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі БССР, якая ў мінулым была асабліва адсталай і раздробленай.

Палова сялянскіх гаспадарак Беларусі аб'ядналіся ў калгасы. Колькасьць плошчы пад савгасамі вырасла ў некалькі разоў. Пашырылася плошча пад вядучымі для БССР культурамі—бульбай, лёнам і канаплёй. Падвысілася таварнасьць сельскае гаспадаркі. Значна вырасла машынізацыя сельскае гаспадаркі ў Беларусі.

Асабліва вялізныя посьпехі дасягнуты ў адносінах трактарызацыі сельскае гаспадаркі. Шэсьць машына-трактарных станцый працавала ў 1930 годзе, 33 у 1931 годзе, 57 МТС у веснавую пасеўную кампанію 1932 г., а да канца году агульная колькасьць МТС павінна быць даведзена да 100.

Такім чынам, на аснове ўсіх гэтых посьпехаў дасягнута першая стадыя ўздыму сельскай гаспадаркі—найбольшае пашырэньне



…оа азімых.

# МІЖНАРОДНАЯ ХРОНІКА

Здымкі Союзфото



Начныя манэўры ў г. Кіле (Нямеччына). Лінейны карабель „Шлезін" выяўляе пры дапамозе моцных пражэктараў „варожую" паветраную эскадрылью. Пушкі карабля бяруць „ворага" пад абстрэл.

Забастоўку маракоў у Галяндыі падтрымалі ангельскія маракі. Яны прынялі захады, каб перашкодзіць магчымым спробам судаходных кампаній адправіць свае судны пад ангельскім сьцягам. Галяндзкі салдат купляе забастовачны бюлетэнь.





— Памятайце, містэр Сьміт, на гэты раз Японія заказала унас толькі швэйныя машыны. А што гэтыя машыны зноў аказаліся кулямётамі, вінавата толькі дыфэктыўнасьць канструкцы
З ням. часопісу „Сімпліцысымус"



Гэтаму шчасьліўцу няма чаго баяцца забароны. Ён можа крычаць толькі „ІЯ" („ія" па-нямецку — так). [З нямецкага часопісу „Сімпліцысімус"

Артылерыя мангольскай народнай арміі на парадзе. Г. Улан Батор. Манголія.



Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЕВІК

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ
САКРАТАР Я. ШАРАХОЎСКІ
АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

ЛІСТАПАД № 22 1932

## ЗА ПАВЫШЭНЬНЕ ЎРАДЖАЙНАСЬЦІ САВГАСНЫХ І КАЛГАСНЫХ ПАЛЁЎ

Царская Расія пакінула нам адну з праклятых спадчын— нізкую ўраджайнасьць сельскай гаспадаркі. Па становішчу ўраджайнасьці Расія стаяла ў апошніх шэрагах сярод капіталістычных краін. Ва ўмовах прыватнай уласнасьці на зямлю, раздробленасьці, праспалосіцы—нельга было павышаць ураджайнасьць. Умоў для павышэньня ўраджайнасьці у масавым маштабе—ня мае ніводная капіталістычная краіна. Наадварот. Усё узрастаючы жорсткі эканамічны крызіс капіталістычнай гаспадаркі, і ў тым ліку сельскай гаспадаркі, робіць немагчымым павышэньне ўраджайнасьці.

Зусім адваротнае становішча ў нас—у краіне пралетарскай дыктатуры. 15 год пралетарскай дыктатуры не пакінулі нічога, што было характэрнага для старой расійскай вёскі. У корані перароблен сацыяльна-эканамічны твар нашае вёскі. *Сельская гаспадарка Савецкага Саюзу канчаткова замацавалася на сацыялістычным шляху.* У рашучай барацьбе з контррэвалюцыйным трацкізмам, з правым і „левым“ апартунізмам наша партыя пад кіраўніцтвам ЦК, на чале з правадыром партыі т. Сталіным, вырашыла самую цяжкую задачу—задачу паварота працоўнага сялянства на сацыялістычны шлях. Гэта перамога сусьветна-гістарычнага значэньня—дасягнута.

*СССР з краіны дробнай сельскай гаспадаркі ў мінулым ператварыўся ў краіну самага буйнага сацыялістычнага земляробства ў сьвеце.* 80 проц. усёй пасеўнай плошчы знаходзяцца ў руках сацыялістычнага сэктару. У асноўных збожжавых раёнах савецкай краіны кулацтва ліквідавана як кляса.

Буйнейшыя посьпехі дасягнуты ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі БССР, якая ў мінулым была асабліва адсталай і раздробленай.

Палова сялянскіх гаспадарак Беларусі аб'ядналіся ў калгасы. Колькасьць плошчы пад савгасамі вырасла ў некалькі разоў. Пашырылася плошча пад вядучымі для БССР культурамі—бульбай, лёнам і канаплёй. Падвысілася таварнасьць сельскае гаспадаркі. Значна вырасла машынізацыя сельскае гаспадаркі ў Беларусі.

Асабліва вялізныя посьпехі дасягнуты ў адносінах трактарызацыі сельскае гаспадаркі. Шэсьць машына-трактарных станцый працавала ў 1930 годзе, 33 у 1931 годзе, 57 МТС у веснавую пасеўную кампанію 1932 г., а да канца году агульная колькасьць МТС павінна быць даведзена да 100.

Такім чынам, на аснове ўсіх гэтых посьпехаў дасягнута першая стадыя ўздыму сельскай гаспадаркі—найбольшае пашырэньне



Сяўба азімых.

**— Гэта падобна на сьмерць, — ціха ўсклікнуў Хавальчук.**



прышоў начальнік разам з сваім памоцнікам і наглядчыкамі, пачаўся вобыск—капаньне ў бялізьне, штуршкі, абраза. Вобыск цягнуўся безканца доўга, ва ўсім целе адчувалася вялікая стома, успрыманьне навакольнага прыглушылася, чуліся як быццам аднекуль далёка начальніцкія выкрыкі — Адчыні хайло! Морду павярні! — і глухі звон у вушшу, як інады ў рэчцы ныраеш і неўзнарок набярэш вады ў вуха. Людзі блізкія сябры адварачваліся ў розныя бакі, як-бы былі яны чужакамі або заклятымі ворагамі. І голыя сьпіны навокал, пасінелае, у струпах, цела, сьцятыя зубы, тонкія вусны ў нэрвовым дрыгаценьні, як-бы хто доргае іх бесьперапынку, грубыя выкрыкі наглядчыкаў, штуршкі, абраза на кожным павароце,—усё гэта наводзіла на думку, што ў астрозе, у Шлісельбурзе, жывуць ня людзі, а цені, — яны моўчкі зносяць зьдзекі, ніякім рухам не выдаючы сябе, што яны жывыя, і каты-наглядчыкі ходзяць сярод іх, як ганарлівыя фараоны тры тысячы год таму назад у Эгіпце сярод сваіх воінаў. Захацелася паказаць ім, што і асуджаныя на вечнае пасяленьне ў далёкім Сібіру — таксама людзі, нават куды вышэйшыя за іх, наглядчыкаў астрогу, зробленыя зусім з іншага матар'ялу лепшае якасьці і вышэйшае кашт ўнасьці. І калі павялі стрыцца, і зноў пачалі зьдзекавацца, адмовіўся ісьці пад нажніцы, якімі ў вёсцы стрыгуць бараноў, ва ўладу грубых кулакоў адстаўнога фэльдфэбеля, астрожнага забіякі. Абстрыглі сілком, — паваліла на падлогу, прыціснулі абцасамі ботаў ногі і рукі, рвалі валасы, не шкадуючы, а праз колькі хвілін упіхнулі ў карцар,—у адной ніжняй бялізьне, галоднага.

Цемень і вільгаць, пад нагамі вады на вяршок. Ня ведаеш, калі ўсходзіць і заходзіць сонца. Згублена мерка ўспрыйманьня часу. Вузкая, падобная на калідор, клетка. Гразкая падлога з цэманту. Стаяць на ёй абедзьвума нагамі нельга,—раматызму ці цынгі захопіш, — перастаўляеш нагу за нагой, як бусел на балоце, і зьвіняць кайданы, націраючы да крыві ногі. Ныюць калені, хочацца піць і курыць, — смага адольвае, душыць горла. Хаця-б адну кроплю вады, — няхай брудную, з вулічнае лужыны, толькі-б ператаліць смагу, і невялікі агрызак недакуранае папіросы, якія кідаюць франты на Неўскім проспэкце. І яшчэ — сухую скарынку хлеба, хоць-бы заплесьнявелую і брудную, што валяюцца ў скрынках для сьмецьця. Глынуць вады, перакусіць хлеба, зацягнуцца на ўсе лёгкія агрызкам цыгаркі, — хіба могуць быць больш нязначныя і разам з тым недасяжныя жаданьні, як гэтыя — хлеба, вады, цыгаркі—пасаджанага на трое сутак у карцар катаржніка. І якое вялікае шчасьце, калі чуецца лязг прыклада аб цэмантовую падлогу склепа, скрыпіць акенца і ў яго прасоўваецца рука наглядчыка з шклянкаю вады і кавалкам хлеба. І не гаворыш, а выдыхаеш тады:—Братка... Шчыпаць махоркі...—і гатоў цалаваць яго, ласьціць, калі ён украдкаю дае недакураны агрызак цыгаркі;—курыш яго з найвялікшаю асалодаю, забудзеш на хлеб і ваду,—хлеб зваліўся на брудную падлогу,—у мачы, у крысіных сьлядах, але не памятуеш гэтага, не заўважаеш, глытаеш атрутны дым тытуню, як закаханы ў жыцьцё юнак глытае перад сьмерцю жывіцельныя лекі, і мацнееш тады, ажыўляешся, ак хворае дзіця пасьля камфары, ці алкаголік, перакуліўшы за гальштук адзіную на другі дзесятак. Якім харошым здаецца жыцьцё, а карцар—прасторным пакоем у змроку начы, калі прачынаешся і ўспамінаеш дзівосны сон. Але гэта на мгненьне, якое пралятае незаўважаным,—смуроднае паветра і мёрзлы цэмант варочаюць у сапраўднасьць, і ня вытрымліваеш нечаканага кантрасту, падаеш у забыцьці на гразкую падлогу, сьніш балота і зьвярыны аскал зубоў і блізкае ў трызьнесьці, далёкае ў рэальнасьці і вольнае жыцьцё. Якое харошае яно за кратамі Шлісельбургу — белы сьнег і высокае неба, асфальт вуліцы і крутыя берагі Нявы, шчасьлівыя ўсмешкі сяброў пры нечаканай сустрэчы.

Цэмантовыя сьцены карцару, падобнага на каменны, наглуха зьвязаны мяшок, пратрымалі трое сутак семдзесят дзьве гадзіны, але яны здаліся вечнасьцю, пасьля якой дзяннное сьвятло асьляпіла вочы, а праменьні сонца, падаючы на фігуру, падкасілі ногі,—такімі былі яны нятрывалымі.

Хацелася прысесьці, ці зусім паваліцца, бы мёртваму, і ляжаць бяз усялякіх рухаў, але ў дваццатым табурэтаў няма, ложкі падвешаны да сьцяны, на падлогу не дазваляюць класьціся, — варушыся ад самага золку да змроку начы,—на тое і астрог, каб выматаць апошнія сілы ў людзей.

— Эх брат, — гаварыў сусед у дваццатцы,—ня вытрымаць нам, загінуць у гэтым Шлісельбургу. Горад танцуе ў кафэ і шантанах, глядзіць прэм'еры, слухае музыку Бэтховена і Шопэна, крыўляецца ад багацьця і славы, а мы, такія-ж роўнапраўныя члены грамады, калі ня большыя, жывымі гніем у гэтым каменным мяшку—бяз сонца і сьвежага паветру, адзінотныя, усімі забытыя. Ненавіджу Пецярбург, у ім камня на камяні не пакінуў-бы...

Гэты сусед быў **Алесь Мілецкі**, семінарыст, удзельнік няўдалага замаху на губэрнатара аднаго з гарадоў цэнтральнае Расіі, член партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, дваццаці двухгадовы юнак з белым пушком на вуснах, са сьветлымі, як шкло, вачыма і русымі валасамі. Ён быў прыхільнікам філёзофіі Ніцшэ, заўсёды сьцьвярджаў пра любоў да дальняга звыш-чалавека, але сябе ня лічыў выдатным, як большасьць ніцшэанцаў, ня быў эгаістам, як шмат хто з прыхільнікаў моднага філёзофа, і згодзен быў ахвяраваць сваё жыцьцё ў кожную хвіліну, нават, калі не патрабавалі гэтага абставіны, у імя лепшага для таварышоў у будучыні, на славу дальняму брату, для якога трэба прывесьці ў сьвяточны выгляд апаскуджаную буднямі зямлю. І ён ня вытрымаў, гэты юнак са сьветлымі вачыма, які жыў толькі для далёкай і невядомай будучыні,—скакнуў з лесьвіцы трэцяга паверху на цэмантовую падлогу, разьбіў галаву і памёр праз некалькі гадзін. Уся камэра ў знак пратэсту супроць нечалавечых астрожных умоў абвясьціла галадоўку, і адміністрацыя ласкаю і ўгаворамі пачала дзейнічаць сярод катаржнікаў, каб спынілі яны галадоўку, а калі гэта не памагло, абвясьціла, што ўсю партыю цераз дзень накіруюць на месца пасяленьня, за Байкал.

Этап за этапам па рускіх астрогах, за Самарай пачаліся славутыя па сваёй жорсткасьці астрогі Сібіру —нова-мікалаеўскі, конскі, краснаярскі,—колькі зьдзекаў і зьнявагі, udaраў прыкладам і штуршкоў у кіршэнь. Яны запомніліся, як удар пяруна ў ясны пагожы дзень запамінаецца дзесяцігадоваму хлапчуку; у кожным з іх здавалася, пакідаў частку сэрца свайго, нэрваў, душы. А пасьля пайшлі па тайзе, вскавым катаржным трактам,—гэта за Іркуцкам, за бурным і глыбокім Байкалам, — па глухой тайзе, пад пякучым сібірскім сонцам, ва ўедлівым пылу, калі ня было чым дыхаць і хацелася крычаць ад смагі. Ішлі чатырохкутнікам, абкружаныя салдатамі, у шэрых куртках, у круглых шапках, у няўклюдых дзяружных штанах, пад якімі зьвінелі кандалы і мулілі, націралі да крыві ногі, перашкаджаючы ісьці. Шмат хто адставаў, падаў у зьнямоге на пыльны тракт, — іх білі, высьпеткамі прымушалі ўстаць і гналі да партыі, каб зноў прайсьці некалькі вёрст і паваліцца бяз сіл на зямлю, пакуль ня ўзьнімуць на ногі спрытныя салдацкія абцасы. Пыльны без канца доўгі тракт і наперадзе зарослая густымі валасамі патыліца суседа, яго роўнамернае тупаньне па дарозе, — яно прымільгае ўваччу, абрыдзіць, як неадступнае,—пад галавой зьвініць машкара, садзіцца на твар, на рукі,—на целе ўскакваюць валдыры, і кайданы зьвіняць—без канца і пачатку, як-бы вечна зьвінелі яны і вечна будуць зьвінець, і глухая абыякавасьць да ўсяго, толькі звон у вушшу, як-бы жаваранкі ў весну сьпяваюць у высокім чыстым небе сваю аднастайную песьню ці ўвечары, перад нядзеляю, звоняць дзе-небудзь далёка ў царкве да вячэрні. Пасьля таго часу, калі пачуецца звон, перад вачыма заўсёды паўстае катаржны тракт у сібірскай тайзе, чатырохкутнік партыі, салдаты, штуршкі ў патыліцу, загарэлыя і абветраныя галовы вечных пасяленцаў. Успамінаецца песьня — шырокая і вольная, разбойная песьня Сібіру.

Славное море—священный Байкал,
Славный кораблик—камлевая бочка.
Эй, баргузин, пошевеливай вал,
Молодцу плыть недалечко...



Ішлі абкружаныя салдатамі

Пападала за песьню, і за гэтую ня так — за „Марсельезу“, за „Анархісцкі марш“, за грозныя словы „Інтэрнацыяналу“,—начальнік партыі загадваў біць прыкладам таго, хто першым пачынаў пець, — але ўсёроўна песьня не замаўкала ў тайзе, разам з звонам кайданаў зьвінела яна ў глухім сібірскім прасторы. І пад песьню, пад аднастайны звон кайданаў, ішлі глыбей і глыбей у тайгу, каб прасядзець два месяцы ў Александраўскім цэнтрале, а пасьля трапіць на праклятую ўсімі катаржнікамі калясуху.

Тады на калясуху пасылалі толькі крымінальнікаў, але Кавальчуку было зроблена выключэньне: ён разам з канакрадамі і забойцамі бацькоў і жонак трапіў у гэтае глухое месца Сібіру і разам з усімі перанёс на сваіх плячох сапраўды нявольніцкія ўмовы працы, роўныя якім былі толькі на амэрыканскіх плянтацыях часоў дзядзькі Тома. Цераз тайгу, па непраходных балотах згодна загаду, з далёкага Пецярбургу пракладвалі невядома навошта калёсную дарогу, на якой гіблі сотні і тысячы катаржнікаў—ад раматызму і цынгі, ад пякучага сонца ўлетку і соракаградуснага мароза ўзімку, ад непасільнае эгіпецкае працы, як некалі беларусы на вялікай сібірскай чыгунцы, усьпетай Некрасавым, — гіблі маладыя дужыя людзі, не кажучы пра старых, або слабых. Дарога была, як Дантава пекла, толькі тут замест старадаўных рымлян пакутвалі людзі дзесяткаў нацый, аб‘яднаных штыхом і прыкладам пад крыважэрным аслом царскае імпэрыі.

Калясуха ня ведала законаў, жыла сваім, адасобленым ад усіх жыцьцём, з сваімі нормамі і звычаямі, над якімі панавала нязначная дзе-небудзь у Расіі, а тут грозная ўлада адстаўнога фэльдфэбэля, у рукі якому аддавалі на нямінучую сьмерць або калецтва сотні людзей і які лічыў, што гэтыя людзі толькі для таго і нарадзіліся на сьвет божы, каб саслалі іх у Сібір, пад ягоную ўладу пракладваць па тайзе калёсную дарогу, па якой у недалёкай будучыні пойдуць новыя тысячы катаржнікаў, народжаных пад такой-жа няшчаснай планідаю.

Шмат хто ня вытрымліваў катаржных умоў жыцьця,—адсякаў сабе на вачох усіх пальцы правае рукі або падстаўляў нагу пад цяжкое, набраклае смалою, сасновае бервяно, каб толькі не стаяць па калена ў вадзе, ня зносіць моўчкі фэльдфэбэлевы зьдзекі, не адчуваць сябе прыбітаю, прытаптанаю ў гразь жывёлаю, над якой можна па сваёй добрай волі выробляць абсалютна ўсё, што ўздумаецца абмежаванай, падобнай на дважды × два = чатыры, засьмечанай заплесьневелымі адкідамі фэльдфэбэльскай дурной галаве. Каторыя-ж сьмялейшыя — кідалі калясуху, напралом уцякалі ў тайгу, і падалі пад стрэламі з салдацкіх вінтовак, а якіх лавілі—праганялі скрозь строй, білі дручкамі і секлі хлёсткімі бізунамі з алавянымі булдавешкамі на канцох, каб была пэўная і законная сьмерць, — расстрэльваць злоўленых небясьпечна было, а бізуны і дручкі ў салдацкім страю давалі двайную карысьць: і злоўлены паміраў па закону, і катаржнікі былі запужаны на далейшы паў. Але ня ўсе палохаліся, уцёкі паўтараліся ўсё часьцей і часьцей, і тады разьюшанае начальства выстрайвала ў шарэнгу катаржнікаў, біла пад зубы і пад бакі, дапытваючыся, хто ведаў пра падрыхтоўку да ўцёкаў і хто дапамагаў уцякачам, але катаржнікі зьвязаныя кругавой парукай, рэдка калі выдавалі таварышоў, толькі здраднік які-небудзь з дробных—каня ўкраў у суседа, жонку забіў, калі ўжо ўсе даведаліся, што яна закахалася ў другога,—гэты здраднік, жадаючы выслужыцца перад начальствам, выдаваў тых, хто дапамог уцекачу, і іх білі да бяспамяцтва, пакуль яны не валіліся з ног, крывёю заліваючы твар, але і яму даставалася не мала: падпільнаваўшы яго дзе-небудзь у цёмным кутку, хапалі за горла і душылі на сьмерць, або камянём білі ў патыліцу, каб ня ўстаў ён ужо з таго месца.

На катарзе Кавальчук прабыў з вясны да жніўня месяца, а тады парашыў: вольнае жыцьцё, або вар‘яцтва на катарзе—уцячы ў Расію, да таварышоў, у рэвалюцыю. Глухая сібірская ноч—віхор буралома́м ішоў па тайзе—ды хлопцы надзейныя — адзін грузін, рускага крамніка зарэзаў у Тыфлісе, другі—татарын, чысьцільшчык панскіх чаравікоў у Менску, сасланы за дробную крадзьбу,—дапамаглі небясьпечным уцёкам і разам з хлапцамі — па тайзе, цераз сопкі — крадучыся ішоў і ехаў тысячы вёрст (калі перайшлі Урал, хлопцы разбрыліся — хто куды), каб апынуцца спачатку ў Пецярбурзе, а потым у Чуйску пад аўтарытэтным крылом доктара Шульца (тут-жа ў Чуйску ўвосень 1904 году пазнаёміўся з Маланьняй, вясёлай гімназысткай апошняе клясы — Маланкай), каб зноў у сьнежні апынуцца ў Пецярбурзе, на ягоных асьфальтавых вуліцах, залітых крывёю рабочых, атруціць генэрала, распаўсюдзіць тысячы сацыял-дэмакратычных праклямацый і зноў трапіць у цэпкія кіпцюры паліцэйскіх, стаяць перад ваенным судом, быць сасланым на катаргу і ўцячы, зрабіўшы падкоп, з перасыльнага астрогу.

Кавальчук успомніў усё гэта лежачы на бруднай падлозе халоднай. Было ўжо за поўнач. Панавала мертвая, уласьцівая толькі глухім сёлам, цішыня. Уцячы з гэтае халоднае ў цёмную ноч, зноў на волю, нічога ня значыла, але Кавальчук парашыў чакаць раніцы. „Раніца за вечар мудрэйшая“,—успомніў ён старую прыказку, і яму захацелася пасьмяяцца з самаго сябе. Становішча ня было сьмешным, але Кавальчук сьмяяўся ад душы—і над старшыном, і над ягоным пісаром, і над стражнікамі, і над „такімі парадкамі“, як называў напэўна, урадавую дзейнасьць старшыны Сідарук з Катоўшчыны. У Кавальчука мільгнула думка, што ён вар‘ят, і яго ахапіў холад, як-бы ўдарыў у твар струмень ледзянога паветра, і ён падскочыў перапалоханы з падлогі. Скрозь жалезныя краты віднеўся шчарбаты рог месяцу, падзелены невялікай хмарай на дзьве паловы, у разьбітую шыбу дзьмухаў араматны вецер,—быў май месяц, цьвілі яблыні і падымалася ўгару з зямлі зялёная трава.—Хутчэй вы звар‘яеце!—запальчыва прыказаў Кавальчук і яму зрабілася лягчэй на душы, як-бы скінуў нехта мулкі цяжар з плеч. Ён падышоў блізка да вакна, узяўся рукамі за краты, папрабаваў дыргануць іх, але яны як-бы ўрасьлі ў сьцяну,—старшынова работа была чыстай, дваццаць тры гады набіваў на ёй рукі,—і ў гэты момант адчуў Кавальчук, як поўняцца сілаю цяглiцы, як узьнімаюцца грудзі і трапеча ў іх сэрца, і над яго, здаецца, падходзяць хвалі нянавісьці да дробнага і гразкага на зямлі, якое апаскудзіла і зьбэсьціла яе. І падумалася ў гэты момант Кавальчуку, адстаўному студэнту Пецярбурскага Інстытуту Мэдыцыны, напалову анархісту, напалову сацыял-дэмакрату, што сілы яшчэ хопіць, не зламаць яе ніякім сатрапам царскае ўлады, праб‘ецца яна праз усе краты—на волю, у сонечную будучыню, у вольную, вызваленую ад самаўладзтва Расію, у якой будзе чалавек чалавеку ня зьверам, а блізкім сябрам, і людзі ўсе будуць роўныя і шчасьлівыя, як можна гэта ўявіць толькі ў марах, седзячы ў халоднай, або ў снах, калі выходзіш з глухога карцару на дзённае сьвятло, і яно асьляпляе сваёй шматкаляровай пярэстасьцю, і падаеш тады ў забыцьці на брудную падлогу, глухое балота і сьніш сонечныя дні будучыні.




Швэйна-кацельны цэх чулочна-трыкатажнага камбінату „КІМ“ у Віцебску.



Старшыня камуны Ціхаміраў І. Е.



Камунары: Бель І. І. і Бель А. Ф.



Камунар каваль Мароз П. С.

МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ, ПЯТРО ГЛЕБКА

# КАМУНА—ВЕРНЫ ШЛЯХ

Пад нагамі мякка шуршыць жоўты пласт прэлых шыпулек—мы ідзем прысадамі з паўночнай стараны. Гонкія і стройныя яліны перапляліся так густа, што іхнія шарэнгі падобны на пышную зялёную сьцяну. Праз яе ніяк ня можа прабіцца ні вецер, ні сонца і прысады нагадваюць падземны калідор з часоў сярэднявечча. Ён выцягнуўся роўна, як напятая струна, і сьцены яго замыкаюцца ў далячыні пад вострым кутом. І от, усё гэта: і прэлыя шыпулькі і пазелянелая бяз сонца зямля, і парослыя мохам каменьні, і тая далячынь, за каторую губляецца калідор—усё гэта пераносіць чалавека на дзесяткі год назад, у мінулае, у гісторыю. Яна, гісторыя, што адбывалася на гэтым кавалку зямлі, паўстала перад намі, як толькі нядаўна расказаная, ці то самімі ўдзельнікамі, ці то іхнімі пашчадкамі. Пачынаецца яна падобна на казку, і вельмі шмат у ёй звычайнага і праўдзівага:

— Чый ты сынок?
— Беляяў.
— А той чый?—паказваем на другога.
— А той Бужынскага.
— А сьвіньні чые?
— А сьвіньні нашы,—парадыруе нас хлапчук.
— Дык твой бацька кулак мусіць?—жартуем мы.
— Не.
— А чаму-ж у вас так шмат сьвіней?
— Бо ў нас-жа і камуна вялікая.
— Колькі-ж вас у камуне?

Васьмігадовы хлапчук назірае на нас недаверліва і падазрона: блізасьць граніцы навучыла быць пільнымі.

— Ня ведаеш мусіць?
— Ведаю.
— Дык чаго-ж ты маўчыш?
— А можа вы шпіёны.

Мы сьмяемся і паказваем яму свае пасьведчаньні, выданыя рэдакцыяй „Зьвязды“. Малому відаць вельмі спадабалася кампазыцыя чырвоных літар у праменьнях пяцікутнай зоркі. Ён доўга разглядае пасьведчаньні, нарэшце згортвае і перадае нам:

— Правільна, з рэдакцыі...
— Ну, дык скажы цяпер, колькі-ж у вас сьвіней.

Сьвіней у іх яй чарадзе 180 штук, а ў сьвінарніках ёсьць яшчэ сьвінаматкі і малыя. Беленькія, беленькія парасяты. Шмат парасят. Ён і сам добра ня ведае колькі, пра гэта можа расказаць сьвінар.

Калі мы ўжо адышліся на крокаў дваццаць, хлапчук гукае наўздагон:

— Апішэце яго ў газэце... Бужынскага. Ён-жа лянуецца пасьвіць, а працадзень, як і мне, запішуць.

Мы абяцаем „прапячатаць гультая“ як сьлед. Прабіраючыся вузкімі паўмежкамі, вяртаемся ў камуну „Верны шлях“. Каля сьвінарнікаў маладых год мужчына чухае доўгага, як лут падсьвінака. Чалавек так захоплен гэтым, што доўгі час не заўважае нашай прысутнасьці. Падсьвінак, выцягнуўшы кароткія і простыя ножкі, варушачы шырознымі вушамі, задаволена рохкае.

— От, каб яго мядзьведзь упадабаў!—зазначае з усьмешкаю мой спадарожнік.

Чалавек спалохана і хапатліва адгінаецца. У ягоных вачох гарыць яшчэ нядаўняе захапленьне.

— Гэта мой улюблёнец... можна сказаць, на сваіх руках выгадаваў.

Знарок задаем такое пытаньне:

— А якая вам радасьць з гэтага? Хіба-ж гэта ваш?

Загадчык фэрмы пазірае зьдзіўлена: ці гэта мы жартуем, ці сур'ёзна. Ён хвілінку думае, а пасьля гаворыць навучальным тонам практыка.

— А што мне да таго, чый ён? чалавеку патрэбна што? жыць! А раз мне ільга жыць, дык на ліха старацца, каб гэты падсьвінак быў канешне мой? Наш, і ўсё. Думаеце, што каторы ня ідзе ў калгас, дык гэта таму, што яму на самоце лепей жыць? Проста, прывык да свайго кутка і адарвацца ня можа. А пажыве крыху ў гурце і адвыкне. От скажэце, нашаму катораму камунару, каб узяў сабе карову, дык ён і рукамі, нагамі адмахнецца. На ліха яму той клопат, калі ў сталовай ня дрэнна кормяць. Падымалі былі ўжо на сходзе гэтае пытаньне, дык ніхто не згадзіўся—прывыклі да новага. І ня доўга прывыкалі, бо да лепшага пасьля дрэннага чалавеку прывыкаць лёгка.

— А вы, даўно ў камуне?—пытаем мы.

Чалавек дзівіцца: Куды-ж яму, батраку, іначай было пайсьці? Ён з першых дзён тут амаль, з першых дзён заснаваньня гаспадаркі.

Яшчэ калгас тады быў. Праіснаваў ён нешта шэсьць год: з дваццаць трэцяга да дваццаць дзевятага, калі з калгасу парашылі зрабіць камуну.

Шмат за гэты час перавярнулася людзей, прыходзілі, адыходзілі; старажылаў не багата, нават першага арганізатара Адама Каськевіча няма. Забралі на працу ў саўгас „Бігосава“. Самым старэйшым тыбульцам мусіць будзе Карл Каськевіч... а можа і Майсееў...

Мы просім загадчыка фэрмы пазнаёміць нас з гэтымі людзьмі.

— Можна будзе, от якраз зараз на вячэру маюцца зьбірацца. Алё-ж мне-б хацелася паказаць вам нашу сьвінагадоўчую фэрму.

У ягоным запытаньні гэтулькі шчырай просьбы, што мы ня можам адмовіць. Дарослы мужчына, узрадаваны як дзіцёнак, бяжыць перад намі, таемна адчыняе дзьверы кожнага сьвінарніка. І горды вынікамі свае працы пазірае, якое ўражаньне гэта робіць на нас.

Сьвінарнікі, на жаль, страшэнна лядаштыя, цесныя, гнілыя і таму парадку ў іх, бязумоўна, належнага няма: гразка, брудна. Загадчык фэрмы адчувае гэта сам і таму імкнецца зьвярнуць нашу ўвагу на іншае:

— Глядзеце, што за харашуха, проста лялька, а ня сьвіньня.

Маладая паросная сьвінаматка сапраўды, падобна на лялечную, даўгая, круглая, як вылітая.

— Гразка тут вельмі, гаворым мы.—Гэта-ж як укінецца якая хвароба, дык усіх выкаціць.

# ПЯТНАЦЦАТЫ КАСТР



Ганаровая варта на ўрачыстым паседжаньні ў памяшканьні ЕДТБ.



Пляц Волі. Прадстаўнікі ўраду і партыі на трыб/не.



Прывітаньне піонэраў на ўрачыстым паседжаньні.



Чырвонаармейскія часьці вяртаюцца з параду.



Пяхота на парадзе.



Кавалерыя .а парадзе.



Комсклад на пляцу Парыскай Камуны.

# ...РЫЧНІК У МЕНСКУ

Фото-хронікі Белдзяржкіно.



...чы дэманстранты на вуліцах Менску.



...чы дэманстранты на вуліцах Менску.



...рацыя чыгуначнікаў.



...і на пляцу Парыскай Камуны.



Панно на тэму „Ліквідацыя кулацтва як клясы" на будынку Наркамзему.



Прыём параду Чырвонай арміі на пляцу Парыскай Камуны.



Прывітаньне ад Чырвонай арміі на ўрачыстым пасяджаньні.



Сьвінарнік камуны.

— Сам ведаю, але-ж няма рады. Як мага сьцерагомся. Я-ж ня вучыўся на гэта, праз сябе ўсё дайшоў: чытаю кніжкі, часопісі. Некалькі раз прасіўся на курсы—ня пускаюць, людзей няма. Ох хіба ужо, як пабудуем новы сьвінарнік, тады... Вы бачылі наш сьвінарнік?

Загадчык фэрмы, надзвычайна гаворкі чалавек, поўны вялікіх плянаў і арыгінальных меркаваньняў. І калі сустрэне ён сьвежага чалавека, хочацца яму выказаць перад ім і абмеркаваць усе свае думкі. Гэты чалавек пэўна доўга яшчэ затрымаў нас, але налучыўся старшыня камуны Ціхаміраў.

— Што-ж ты трымаеш людзей? Вячэраць пара. Хадзем, хлопцы.

Ціхаміраў высокі і сухарлявы. Крысы ягонай картовай жакеткі тарчаць сьпераду, як крыльля. А можа гэта толькі здаецца так па асацыяцыі, бо Ціхаміраў надзвычай порсткі і рухавы—проста лётае чалавек. Пакуль мы прышлі ў сталовую, ды ён ужо распарадзіўся і вячэру падаць і на заўтрашні дзень работу разьмеркаваць і... накрычаць, нашумець.

А пачалося з таго, што адна маладая камунарка, якую Ціхаміраў назначыў даглядаць сьвіней, засталася нездаволеная, ёй хацелася ісьці падымаць лён.

— Ня знайце каго іншага, я не пайду,—спрачалася яна.

Ціхаміраў уськіпеў. Справу ўладзілі жанчыны. Яны ахінулі цесным кругам непаслухмяную і праз пару хвілін яна ўжо сьмяялася звонкім сьмехам:

— А я думала, што тут, як у вёсцы: сьвінарка самае ганебнае імя.

— Думала.—Перадразьніў яе Майсееў.

— А ты, гэтак, спачатку ня думаў?—умяшаўся стары Каськевіч—Тут, брат, чалавеку нутро трэба перавярнуць, тады ён зразумее.

— Ай, ці падлу вучы ці не: адно ліха,—не здаваўся Майсееў.

— Няпраўда твая. А прыгадай вазьмі, Тамашэвіча? Быў у нас адзін такі камунар,—зьвяртаецца да нас Каськевіч,—выехаў ён. Дык, от, быў ён страшна рэлігійны. А ў нас, трэба сказаць, рэлігія не ў пашане—лішняя яна ў нашай рабоце. Мой, скажам, от гэты сын, каторы ў Гомелі вучыцца, ніколі і ў папа ня быў. Ну, а Тамашэвіч гэты, перад тым, як ісьці на работу, стане і богу моліцца. Пакуль-жа ён адчытае ўсе свае пацеры, дык людзі добрыя напрацуюцца. Ды зрэшты, ня ў гэтым справа. Сорамна нам усім: камунар, ды каб у бога верыў. Узяліся мы з Майсеевым каля яго тупаць. Як возьмем, бывала, яго накепікі, дык аж гарыць чалавек. Вядома, нас гурт,—той слова, той слова, от табе і песьня. Ну, а ён адзін. Круціцца, круціцца ды і рады няма. Нарэшце, задумаўся чалавек, а праз некалькі дзён, прыходжу я да Тамашэвіча напіцца.—„Чым гэта ў яго квас, думаю, накрыты такім пазлацаным?“ Гляджу—ажно абразамі. Так неўзаметку і адвык чалавек ад бога.



Дзіцячыя ясьлі ў камуне



Камунар Майсееў А. О.

— А можа ён накрыў абразамі, каб лепшы квас быў,—сьмяецца нехта з маладых.

— А ліха яго ведае,—расплываецца шырокай ухмылкай сам Каськевіч. Не павінен, здаецца. Ён быў чалавек сумленны. Жонка яго зьвяла. А от, другі быў...

Каськевіч пачынае апавядаць новую гісторыю. Стомленыя за дзень цяжкою працаю, камунары рады паслухаць цікавае здарэньне, або выдумку, рады пасьмяяцца ад шчырасьці, пажартаваць.

Праз расчыненыя вокны ў сталовую ўрываецца вецер, шалесьціць паркалёвымі фіранкамі і паразьвешанымі на сьценах плякатамі. Чыста прыбраныя сталы зіхцяць новымі квяцістымі цыраткамі. Дзьве вялізныя лямпы ярка асьвятляюць сталовую. Праз высокія вокны хвалі сьвятла выліваюцца на шырокі дзядзінец і там на траве пераліваецца буйная раса. Роўным струменем коціцца гаворка, зьвініць цішыня.

Здаецца, што людзі сабраліся на нейкую вялікую ўрачыстасьць і хочацца ім самымі цёплымі словамі, перадаць другому сваю шырокую і спакойчую чалавечую радасьць. Тут няма тае скнарнае замкнёнасьці, якая заўсёды бывае ў побыце селяніна і якая заўседы зьніжае чалавечую годнасьць. Тут чалавек разумее чалавека і паважае яго.

Майсееў—яшчэ дужы стары, год пад шэсьцьдзесят—апавядае праз сваіх сыноў:

— Пакінулі мяне: адзін працуе ў Койданаве на МТС, другі—у Бабруйску камротам, а трэці... лётнікам, брат. От да чаго дапяў, сукін кот.

Кароткія пышныя вусы разьдзімаюцца ад здаваленьня мётламі. Круглы нос накрываецца чырваньню. Майсееў робіць невялікі прыпынак і ўжо з захаванаю радасьцю і напускною насьмешкаю гаворыць далей:

— Прысылаюць грошы і пішуць—„калі цяжка—не працуй“... пражывеш, значыцца, і на іх сродкі. Трэба-ж дадумацца. Я ведаю, што пражыву, але-ж хто тут будзе рабіць? Зямлі ў нас 240 гэктараў, саду 27, 18 коняй, 24 каровы, чарада сьвіней—трэба-ж усё гэта дагледзець. А рабочай сілы ня так ужо багата: 25 чалавек з 85 едакоў. А то ўсё, то малыя, то вучацца, то на пабочнай рабоце. Ну, ды і сорам такі: як гэта я злажу рукі і сяду, а людзі будуць душыцца работаю. Каб ужо сілы ня меў чалавек,—іншая рэч, а то-ж я потым нечага варт, калі мне прэмію выдалі. Можа з маладым каторым і ня спраўлюся, але ж потым сёе-тое зраблю.

— Ну, ты ўжо не ўмаляй сваіх заслуг,—перабівае яго Ціхаміраў. Ты яшчэ любога за пояс заткнеш. Але я думаю, што пара, хлопцы, адпачываць... Позна...

Праўда што заседзеліся. Заўтра-ж на работу трэба...

Разыходзяцца нехаця, канчаючы недаказаныя гаворкі, пачынаючы новыя, абмяркоўваючы заўтрашнія пляны работы. За поплавам чуваць, як шумяць на жоўтапёску хвалі Дзьвіны. З Каськевічавай хаты, праз адчыненыя вокны вырываюцца ўсплёскі маладога здаровага сьмеху. Весела летам у камуне. З Менску, з Гомелю, з Віцебску, з Ленінграду зьяжджаюцца на вакацыі студэнты, курсанты, вучні. Удзень яны працуюць на полі, у садзе, косяць, жнуць, малоцяць, а вечарамі зьбіраюцца пагутарыць, пагуляць. Выціраючы сёмы пот, спрачаюцца да хрыпаты ў голасе, дзе раней пачнецца пралетарская рэвалюцыя: у Нямеччыне, ці ў Польшчы? Б'юцца над вызначэньнем тых шляхоў, па якіх пойдзе далейшае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі; мараць пра тыя дні, калі самая высокая культура пранікне ў самыя глухія куткі, калі тэхніка дасягне нябывалага разьвіцьця. А бывае з сур'ёзных гутарак пяройдуць на жарты. Сьмяюцца з „дзявочай долі“ камунарак. Прыгожыя ёсьць у суседніх вёсках хлопцы, але павялося ў камуне, што замуж на старану—у вёску выходзяць вельмі

неахвотна: прыгадае каторая сваё жабрацкае маленства ў брудзе, у холадзе, у голадзе—і рукі апускаюцца. Хто-ж гэта вернецца ў тое пекла. А хлопцы кепікі строяць:

— Ты яго, мядзьведзя вясковага, у камуну агітуй.

— Дзе ты яго з'агітуеш: у дзеўках састарэешся, пакуль з'агітуеш. От, калі спадабала, дык і валі... Прывядзеш яму чараду дзяцей і няхай поўзаюць у гразі з парасятамі.

Злуюцца дзяўчаты:

— На ліха вы нам усе. І без вас абыйдземся.

Так толькі гавораць, а ў думках маюць іншае. Уяўляецца стройны малады трактарыст, або палявод, мірсьціцца ў дзявочых марах злагаднае жыцьцё, здаровыя і прыгожыя дзеці. І поруч з гэтымі лятункамі, дзесьці бліжэй за іх, на пярэднім пляне паўстаюць малюнкі сапраўднасьці. Дзяўчына хапаецца за іх, каб дапячы хлопцам:

— Ты не баламуць каторы, а паглядзі, як у камуне гадуюцца дзеці?

— А што?—трывожыцца сакратар камсамольскай ячэйкі.

— А тое-ж... у ясьлях каторы ўжо дзень печ дыміць, і ніхто не паправіць. Гэта добра, што цяпер дзеці на двары, а як пахаладне—яны-ж пачадзеюць усе.

— Трэба будзе заўтра паглядзець,—зьбянтэжаны тым, што ён не дагледзеў гэтага раней, гаворыць сакратар камсамольскай ячэйкі.

Цікавая новая рыса чалавечнасьці вырасла ў характары камунара. Пачынаючы ад піянэра і канчаючы старым Бельскім—усе яны поўны нянавісьці да ворагаў і поўны шчырага клопату аб сваіх. У камуне жывуць сіроты Кліноўскія. Хлопцу будзе ня больш гадоў семнаццаць, а дзяўчыне і таго менш. Невялікія з іх яшчэ работнікі: летам сёе-тое памагаюць, а зімою вучацца. Аднак, ніколі ніхто з камунараў ня ўпікнуў іх гэтым.

Радзіўся і расьце новы чалавек. Голас яго, поўны вялікіх дум і трывог, чуваць у штодзеннай гаворцы, у акордах гэтай урачыстай музыкі. Добра іграе скрыпка. Музыка—ня тутэйшы. Ён прыехаў сюды ў якасьці загадчыка саду, заарандаванага ў камуны ленінградзкім спажывецкім саюзам. У гэтага чалавека на правай руцэ няма ніводнага пальца. І, перад тым, як іграць, ён прывязвае смычок да кісьці. Змаўкаюць вясёлыя галасы, сьмех і жарты. Роўна плыве мэлёдыя, музыка пераходзіць на мажорныя ноты. І тады ўрываюцца галасы балалайкі і гітары. Акорды бравурнага маршу шумяць навальніцаю—над садам, над полем, над рэчкаю. Пэўна там, за Дзьвіною, слухаюць, абапёршыся на падаконьнік, гэтую песьню чалавечай радасьці і гадаюць над сваім лёсам.

— Песьню. Дайце песьню. Трэба словам выказаць усё.—сіліцца перакрычаць навалу ўзбураных гукаў малады Каськевіч.

У гэты час да вакна ўрываецца голас Ціхамірава:

— Якую табе песьню? Спаць пара. Заўтра на работу ня ўстанеш.

Але маладосьць, у каторай такая шчасьлівая сучаснасьць і ў каторай такая вялікая будучыня—ня ведае ўтомы. Здаецца і мы ўсталі на заўтра ня позна, але камунары былі ўжо ўсе на рабоце. У канцылярыі старшыня камуны Ціхаміраў і маладая дзяўчына—рахункавод, распрацоўвалі папярэдняе разьмеркаваньне ўраджаю.

— Добра добра,—радаваўся Ціхаміраў, вымаўляючы беларускае слова на свой паўдзённа-рускі лад.

— Чаго гэта ты, так цешышся?

— З прыбыткаў нашых. Глядзі,—ён перагарнуў некалькі лістоў тоўстага журналу.—От, скажам, Чарняўскі... зарабіў ён удваіх з жонкай 600 працадзён. Такім чынам, на яго долю прыпадае: 9,30 *цнт* бульбы, 4,80 *цнт* жыта, 3.75 *цнт* пшаніцы, 0,73 *цнт* ячменю, 0,87 *цнт* гароху, 1,20 *цнт* ільнатрасты і 1.176 руб. грашыма. Гэта, ня лічачы рознай дробязі.



Рахункавод камуны Барэйка Г. С.

І от, адлічыць усе належныя прадукты на сталаваньне, дык і то ў яго яшчэ застанецца крыху на продаж. Ну, і грошы, тысяча рублёў, гэта таксама не малая капеечка. Добра мы ўправіліся, га?

— А як, з загатоўкамі.

— Выканалі. Лён ужо амаль увесь адвезьлі. Там толькі крыху яшчэ сягоньня падымаюць. Мяса здаем акуратна, адным словам работа ідзе.

— А цяжкасьці?

— Ёсьць і цяжкасьці. Думаеце, што гэтага мы дабіліся лёганька?..

І дарогаю на поле тав. Ціхаміраў расказаў нам пра тое ўпартае змаганьне і тую напружаную працу, дзякуючы якім камуна „Верны шлях" выйшла на цьвёрдую дарогу. Было і шкодніцтва, былі і кражы, былі і спрэчкі, але ўсё гэта перамагла шчыльная зьнітаванасьць асноўнага ядра камунараў.

На раскрыжаваньні разьвіталіся. Мы пайшлі на вакзал, а тав. Ціхаміраў павярнуў к лесу. Накінуўшы крысьсе свае картовае жакеткі, крыху згорблены, ён сьпяшаўся не спазьніцца на дасеў жыта. Там было відаць хтосьці з сявенькаю на плячах, шырока махаючы праваю рукою, дбайна абсяваў узрэхі, пакінутыя сявяркай. Хлопцы шасьцярмі коньмі баранавалі. Крыху ніжэй, за ўзгоркам падбіралі лён. Былі відаць толькі галовы ў чырвоных хустках і адгукаліся рэхам на ўзьлесьсі дзявочыя песьні. Пераліваючыся на сонцы, плыло доўгае павуціньне. Асыпаліся пажоўклыя лісты. Поле было па-асеньняму звонкае і жыло чалавечымі галасамі. А там, на другім беразе Дзьвіны стаяў на пагурку невялікі хлапчук, адзінокі парабак. Ён забыўся на гаспадарскую чараду і, як зачараваны глядзеў на гэты бок. Што ён думаў? Ёсьць у тамашніх занядбаных людзей адны думкі, іх выказвалі нам, ужо ў вагоне дарогаю з Бігосава перабежчыкі з таго боку. Скардзіліся на беспрацоўе, на голад, на безьзямельле, на бяспраўе. Дзівіліся з нашага жыцьця, з нашых размахаў. І самі мы сказалі такую загадку:

Гісторыя чалавецтва за нас, значыць, сіла яе, як сіла інэрцыі кожнага руху, памножаная на сілу чалавечага энтузіязму, дае з кожным днём усё большыя і большыя тэмпы.

З гэткімі тэмпамі імчыцца наш цягнік: мільгаюць праз вокны агні, адбягаюцца ў далячыню лясы і палеткі, зьнікаюць калгасы і вёскі. Дарога ідзе на Ўсход.

## ДЭЛЕГАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ НА ПРЫЁМЕ Ў т.т. ГІКАЛА і ГАЛАДЗЕДА



На здымку зьлева направа: т.т. М. Лынькоў, Якуб Колас, М. Галадзед, Янка Купала, Г. Гікала, Андрэй Александровіч

АЛ. ДУДАР

# ПЦІЧ

(Глава з хронікі)

У балота ўрэзалася Пціч,
шырока поймы разгарнула.
Тут часам птушка праляціць
а зьверу не знайсьці прытулку.

Павольна цягнецца рака
ў цяжкім гарнітуры балота:
яе пільнуе асака,
яе ахоўваюць чароты.

Але, зглынаючы засеў
тысячагодняга спакою,
далоні жорсткія шосэ
мастом спляліся над ракою.

Пяюць на трасе малаткі
усё бліжэй, усё імклівей—
яны ўбіваюць у вякі
тысячагоднюю маўклівасьць.

Каму было-б тут галасіць?
Пад сонечнаю пазалотай
маўчалі дальнія лясы—
вассалы вечныя балота.

Ім не сарвацца, не ўцячы:
маўклівасьць—доля іх глухая
... І з пасівелых хваль Пціччы
ахрыплы голас далятае:

— Мяне ня ўцяць і ня ўсушыць!
Я гэты край апанавала!
Жыла, жыве і будзе жыць
мая зялёная навала.

Я помню прадзеда твайго:
загнаны горам і турботай
сюды прышоў ён і яго
схавала я ў сваіх чаротах.

Касою твой гарэзны дзед
парушыў скарб майго спакою—
расплыўся знак яго і сьлед
у глыбіні пад асакою.

І бацька твой пайшоў на дно.
І човен згніў, згнілі і вёслы:
І берагоў маіх радно
яго адпела безгалосьсем.

І сын твой прыйдзе да мяне
ад долі жорсткай і нясытай
і супакоіцца ў багне
маім туманам апавіты.

Як тысячу гадоў назад
Я буду несьці сьмерць наўкола
і подых мой вастрэй нажа
ўпівацьмецца ў людзкое горла.

І будуць цісньцца палі,
далёка нікацьмуць дарогі!
Мяне вы ня перамаглі
і не дажыць вам перамогі.

Вы хочаце бліжэй і лепш
а будзе так, як я захочу!

Я слухаю—ўзрастае гнеў
і спазмы сьцягіваюць горла
і кроў бунтуецца ўва мне
неперыможна і напорна.

— За дзеда, прадзеда свайго
не пракляну цябе адну я:
не прад табою толькі горб
яны ўвесь век пакорна гнулі.
Хто меў свой кут і дабрабыт,
той жыў з табою ў добрым ладзе
На згубу ішлі яго рабы—
ішоў мой дзед, ішоў мой прадзед.

Затым вось у сваёй кляцьбе
не абмінаю я праклёнам
таго, хто ў лютай барацьбе
дабіты, падыхае сёньня.

А сын мой тут не затане.
Ён прыйдзе мужны, сілы поўны
і па старой тваёй сьпіне
пагоніць ён цяжкія чоўны,

засее берагі твае
вясёлым жытам і пшаніцай,
дарогамі перавіе
твае далёкія граніцы.
Табе ад долі не ўцячы!
Ты будзеш нашай, Пціч старая!..

І з пасівелых хваль Пціччы
ахрыплы голас далятае:
— Таго табе не дачакаць
Дый ня было таго спрадвеку,
каб пакарылася рака
нікчэмнай сіле чалавека.

Мяне рукамі не ўбярэш
і за касу, мяне ня ўхопіш.
Ніякай сілай не праравеш
мае дрыгвяныя акопы.
Мяне ня ўцяць і ня ўсушыць,—
я гэты край апанавала!
Жыла, жыве і будзе жыць
мая зялёная навала.

Мой гнеў паволі адыйшоў
і замяніўся на пагарду—
Які падрыў! Якая жоўць!
Якая нэндная ўпартасьць!

— Гэй, гэй, бабулька, ня сычы!
Юнацтва двойчы ня прыходзіць.
Хай славяць совы ды сычы
тваёй магутнасьці стагодзьдзі.
Тваё было ды адцьвіло,
а наша толькі расьцьвітае.

Тваіх балот гнілых сіло
нам болей пагражаць ня стане.

Мой прадзед, дзед і бацька мой
таму знайшлі ў табе магілу,
што выйшлі дужацца з табой
з аднэю чалавечай сілай.

А нашы дні—на тыя дні:
другая доля паявілася:
яны выходзілі адны,
а мы выходзім сілай кляса.

І ўсюды ў нашай барацьбе
за намі будзе перамога,
бо мы будуем для сябе,
а не для некага другога.

Хапае сілы ў нас на бой,
мы іх надвоім і пятроім,
але каптан зялёны твой,
як нам патрэбна, перакроім.

Стальныя ніткі дрэнажоў
мы зьвяжам частым пераплётам
і ты сама гнілую жоўць
смактацьмеш са свайго балота.

А трэба будзе—і табе
ад нас нікуды не схавацца:
мы вычысьцім і аскрабем
са дня твайго гнілую нацьвіль.

У граніт ушчымім берагі,
і стальлю празразаем мелі.
Мы шлях табе далі-б другі
калі-б патрэбу ў гэтым мелі.

Крутая нашая пара
ня прызнае размовы доўгай:
спытайся ў дзядзькі, у Дняпра,
у кума Дона, цёткі Волгі.

Маўчы, бабулька, ня сычы!
Твой час прыйшоў, наш дзед гукае
І з пасівелых хваль Пціччы
ахрыплы голас далятае:

— Ідзіце прэч, ідзіце ўсе!
Усё затоне, усё загіне
Я рассмакчу тваё шосэ,
Я затаплю твае машыны.

Я атручу лясы, палі
і зьвярыну і чалавека;
не ўблагаць, не ўмаліць
неўблагаую спрадвеку,
Мяне ня ўцяць і ня ўсушыць—
Я гэты край апанавала!
Жыла, жыве і будзе жыць
мая зялёная навала

Нястрымны пераможны сьмех
мае напружвае жылы:
— Табе, сівая, пэўна, у сьне
надвое бабка зваражыла...
Маўчы, бабулька, ня сычы!
Ніхога сёньня не настрашыш.
Табе галоў нам не сьпячы,
не распарошыць волі нашай.

Бо мы шагаем праз вякі
па вострых і калючых пожнях,
бо нас вядуць бальшавікі—
наш авангард няпераможны.

Маўчы, бабулька, ня сычы!
Табе канец, а нам—пачатак!..
Ад пасівелых хваль Пціччы
ўздымаецца туман пашлаты:
агортвае берагі
агортвае ўзьбярэжжа,
вакручываецца ў кругі,
ўздымаецца вытворнай вежай...

Але зглынаючы засеў
тысячагодняга спакою
далоні жорсткія шосэ
мастом спляліся над ракою.

І далятаюць з-за ракі,
з-за столак сінячы туману,
аўтамабільныя гудкі—
сыгналы заўтрашняга раньня.

В. СТАШЭЎСКІ

# ПАХ БЭНЗЫНЫ

(ПОШУКІ САПРАПЕЛЯ)

Маторная чайка паварочвала і мелася ісьці на сярэдзіну возера. Раптам на берэзе зьяўляецца нейкі хлапец. Ён падкасваецца і шпарка накіроўваецца ў чайку.

— Чыя чайка? Нам можна скарыстаць яе?—пытае „хлапец“ жаночым голасам.

— А хто вы такая?—пытаюць гаспадары маторкі.

— Сапрапелевая экспэдыцыя,—адказвае „хлапец“.

Экспэдыцыя ня вельмі пашыранае слова, але яно зразумела гаспадаром маторкі, а „сапрапель“—цёмная рэч. Калі-б мы прачыталі кніжку прафэсара М. М. Салаўёва „Проблема сапрапеля в СССР“ мы ўявілі-б сабе, што: „слово сапрапель“ в переводе с греческого языка означает „гниющий ил“. Так называются илы с большим содержанием органических веществ, носящие в науке еще другое название „гиттьи“. Образуются они главным образом за счет живущих в воде низших растительных и животных организмов. К ним обычно примешиваются в той или другой степени разные тела, принесенные отчасти с суши, отчасти ветрами, водными потоками и течениями, как, например, песок, глина, пыльца и обрывки тканей высших растений. Весь этот сложный, как в химическом, так и биологическом отношении комплекс подвергается под водой и при слабом доступе кислорода длительному и периодически меняющемуся воздействию различных микроорганизмов и таким образом превращается в коллоидальную, на ощупь мягкую и жирную массу, носящую название „сапрапель“.

Ня важна, каб чытач трымаў у сваей галаве гэту „формулу“, а важна, каб ён меў некаторае ўяўленьне гэтае колоідальнай масы.

Ня ведаем, як той „хлапец“ (а гэта была жанчына ў спэцадзеньні) растлумачыў, але маторка пайшла сваёй дарогай, а дзяўчына накіравалася да свае экспэдыцыі, якая сядзела на фурманцы аднаасобнічка. Там яшчэ адна дзяўчына гідробіолёг і сьвідрамайстар.

На ўзгорку хутар. Тут цэнтр калгасу „Новы двор“. Тут толькі дзьве хаты, а якраз пасярод малюсенькая лазьня. Экспэдыцыя выбірае яе і лазьня прымае жыхароў са штангамі, драгай, планктонам і іншымі прыладамі Усесаюзнай Акадэміі Навук.

Старшыня калгасу адчувае сябе крыху ніякава за прадастаўленую кватэру, фактычна экспэдыцыя сама выбрала, ды гэта патрэбна для тых рэчаў, якімі экспэдыцыя ўладае. Важна, што тут ёсьць добрая чайка.

Быў надвячорак. Здавалася, што сёньня можна толькі падрыхтавацца да начлегу, але ўдзельнікі экспэдыцыі, фактычна даная група мабыць не забылася пра тэмпы работы і праз невялікі час чайка пайшла па чатырохкілёмэтравай воднай лініі возера Лосьвіда.

Дзікія качкі загадзе ўступаюць дарогу. Грузныя яны ў жнівеньскую пару, хвалюють паляўнічых. А тут ім раздольле. Са штангі страляць ня будзеш.

Вось ужо бераг з „Новым дваром“ застаўся на паўкілёмэтра, на дно возера апускаецца самадзялковы якар. Чайка стала. Мэтравыя штангі навінчваюцца адна на адну і сьвідравальная прылада дастае дно. Сьвідрамайстар, на колькі ў яго хапае сілы, націскае. Разьвінчваюцца штангі, вымаюцца сьвідр і мы тут бачым падводную пароду зямлі. У трубачцы мы бачым нейкую чорную масу.

— Ёсьць!—кажа сьвідрамайстра і падсоўвае сьвідр да спэцыялістаў.

Дзьве дзяўчыны бяруць з трубкі гразь, прабуюць на зуб і накладваюць у невялічкія шкляныя баначкі. На корку робіцца надпіс. У запісную кніжку таксама нешта запісваецца. Паехалі далей.

Бэнзынай ня пахне, а бэнзына ёсьць.

Зусім пачынае цямнець. Экспэдыцыя на супрацьлеглым ад свайго „штабу“ беразе. Зноў сустрэча з гаспадарамі маторкі.

Возера пачало хвалявацца. Невялікая хмара не пашкадавала падсыпаць свае вадзіцы. Цёмна, берагу ня відаць, прыблізны напрамак ведаем. „Налягай, друг, на вёслы!“.

А палове адзінаццатай расчыніліся дзьверы і лазьня гасьцінна прыняла прамокшых людзей. Паходны ліхтар асьвятліў чорныя сьцены. Вячэраў атрад сапрапелевай экспэдыцыі.

Раніца ўсьміхнулася яркімі праменьнямі сонца. Калгасьнікі прынесьлі сьвежае малако, гарачую бульбу, салёныя гуркі і а восьмой гадзіне раніцы чайка зноў пайшла на гэты раз па роўных люстраных прасторах возера.

Павярнулі ў затоку. Густы, высокі чарот хоча аддзяліць ад возера і ён напэўна свайго даб'ецца, бо з кожным годам ён заваёўвае ўсё большую тэрыторыю. І цяпер ён упарта перашкаджае руху вёслаў, мясцамі прыходзіцца ўступаць яму, аб'яжджаць.

Затока магла-б зачараваць пэйзажыста, нават кампазытара, які адчуе таямнічае шапаценьне чароту, услухаецца ў гулы і шумы, якія даносяцца з былога маёнтку — цяпер камуна

Здымак Саюзфото.



**Волга—Масква.**
**На будаўніцтве каналу Волга—Масква разгарнулася вышуквальная праца, вядзецца бурэньне. Тэхнічны праэкт трасы поўнасьцю скончаны.**
**На здымку: ст. інжынэр групы каналаў т. Самёнаў. Пад яго кіраўніцтвам быў распрацаваны праэкт трасы канала.**

# АБ РАДАСНЫМ

## СПЭКТАКЛЬ „НОВЫ ГОРАД“ У БЕЛДЗЯРЖТРАМЕ

... Прамень ліхтарыка мільгануў па пакоі. Смык прывычна адкрыў вакно, прыціснуўся да сьцяны, прыслухаўся. Асеньняя ноч была ціхай і цёмнай. Гэта прыгнятала і настарожвала. Трывожна білася сэрца, хацелася разарваць адзіноцтва.

Ціхі, як шолах лісьцяў, сьвіст. Два таварышы па апэрацыі ўсталі за Смыкам.. Бездапаможна сапеў Міцька (акторка Фрыд), сьціснуўся ў камяк нэрваў Цігр (актор Скакун). Квадратовая пустэча пакою вабіла. Трэба было пачынаць работу.

Міцька ўлез у вакно за Смыкам. Цігр бясшумна саскочыў з падаконьніка. Трое разьмітнуліся па пакоі, зайсьці і ўзяць усё, што можна, перагнаць на хлеб і гарэлку.

Міцька вобмацкам схапіў нечыя боты. Смык шукаў нечага на этажэрцы. Рыпнула дошка. Звалілася кніга. Раптам—успыхнула электрычная лямпачка. Цігр выхапіў фінку.

У пакоі быў чацьверты. Трое бяспрытульных „засыпаліся“ па апэрацыі ў кватэры начальніка будаўніцтва магутнай электрастанцыі Арцёма Віхуры.

Так пачынаецца спэктакль „Новы горад“ у Белдзяржтраме.

Для аўтара — драматурга І. Гурскага, для пастаноўшчыка рэжысэра Б. Дольс ага, для трамаўцаў-актораў — гэты спэктакль—скачок на новы этап.

Драматургу І. Гурскаму ў гэтай рабоце ўдалося ўстаць на шлях перамаганьня схэматызму, які быў у яго папярэдняй рабоце—п'есе „Качагары“, на шлях стварэньня фабульнага твору, паказу вобразаў у іх разьвіцьці, рэальна адбіваючы сёнешнюю сапраўднасьць.

Пралетарыят, будуючы сацыялізм, уцягвае найшырэйшыя пласты працоўных, перарабляе іх. Мы будуем сацыялістычныя гарады і сацыялістычнага чалавека. Аб тым, як у клясавых схватках, як у „буднях“ будаўніцтва, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, нараджаецца новы чалавек, яшчэ з хібамі, яшчэ з плянамі капіталізму, расказвае і паказвае „Новы горад“.

Чалавек не машына, тут іншыя якасьці. Недарма гаворыць у „Новым горадзе“ інжынэр Кімаў (актор Галавач): „каб пазнаць чалавека, трэба пуд солі зьесьці“. Цяжкі шлях ад учарайшага бяспрытульніка Смыка (актор Баброў), ад бесшабашнага п'яніцы, бэтоншчыка Скакуна (актор Глікман), ад былога шкодніка, інжынэра Беразоўскага (актор Мірайлаў)—да ўдарніцтва, да адданай работы.

У кожным пункце Савецкага саюзу, будуючы сацыялізм, складваецца новы чалавек. Адбіць гэты складанейшы працэс у мастацкіх творах, гэта значыць спрыяць разьвіцьцю гэтага працэсу.

Але драматургу не ўдалося ўсебакова і глыбока адбіць у „Новым горадзе“ складанейшы працэс „нараджэньня“ новага чалавека. Другарадныя тэмы і вобразы не накіраваны на распрацоўку асноўнай тэмы. Асобныя месцы п'есы, як і сама фабула не дапрацаваны.

Ударнікі пабудовы ўзяліся змантыраваць турбіну ў 28 дзён. Ангельскі інжынэр ня згодзен працаваць такімі тэмпамі і адбірае ў брыгады чарцяжы, свае чарцяжы. Ударнікі адказваюць на гэта—абяцаньнем змантыраваць турбіну ў 25 дзён. І – кропка.

У гэтым месцы і п'есы і спэктаклю, зусім не паказан вобраз новага чалавека-ударніка, які можа працаваць нябачанымі ў Эўропе тэмпамі, які сапраўды можа змантыраваць турбіну без чарцяжоў і нават раней тэрміну. Атрымалася схэма, не пераконваючая гледача дзея.

Асобныя вобразы „Новага гораду“ просталінейны, нават схэматычны. Ня ўдаўся вобраз старога бальшавіка Арцёма Віхуры. Для паказу вобразу бальшавіка бяз хісганьняў, героя-кіраўніка будаўніцтва, трэба было паказаць яго бальшавіцкія якасьці ў дзейнічаньні, глыбей ўскрыць яго ролю, як арганізатара перамогі. Замест гэтага ў некаторых месцах гучыць дэкламацыя, у асобных малюнках п'есы паступкі Віхуры кідаюць гэты вобраз з рэалістычнага паказу ў надзвычайную ўмоўнасьць.

Такія зьявы з рэальнага адбіцьця сапраўднасьці ў нязвычайную ўмоўнасьць у п'есе сустракаюцца часта.

Ня гледзячы да гэтыя недахопы п'еса „Новы горад“ у мастацкіх вобразах, у цікавым, напружаным фабульным разгортваньні паказвае вялікую праблему і зьяўляецца бязумоўным дасягненьнем у творчым росьце І. Гурскага.

Белдзяржтрам пастаноўкай „Новага гораду“ паказаў, што ён мае права быць стацыянарным беларускім дзяржаўным тэатрам. На аснове творчых сіл рабочай моладзі вырас камсамольскі тэатр, асновай работы якога зьяўляецца сыстэматычны спэктакль—шырокае скарыстаньне музыкі, руху, сьвятла, канструкцыі і г. д. у дапамогу актору. Характэрнай асаблівасьцю гэтага тэатру зьяўляецца бадзёрасьць, жыцьцярадаснасьць, вясёласьць.

Пастаноўшчык спэктаклю—мастацкі кіраўнік Белдзяржтраму Б. Дольскі змог стварыць праблемны спэктакль жыцьцярадасным і вясёлым. Гэтых якасьцяй так не хапае нашым тэатрам.

Лепшыя сцэны п'есы і спэктаклю—кватэра Скакуна, камсамольскі сход, пуск турбіны, трамаўская камуна, канцоўка—радасная зарадка гледачу.

Пастаноўшчык скарыстаў цікава напісаную, глыбокую па зьместу і па якасьці музыку, напісаную кампазытарам—дырэктарам Траму М. Івановым, музыку, якая арганічна зьліваецца



„Новы горад“. Сцэна—камсамольскі сход



„Новы горад“. Сцэна—мантаж электрастанцыі



**Ільля Гурскі—аўтар п‘есы „Новы горад“.**

са спэктаклем. Уся пастановачная работа ішла ў барацьбе з фармалізмам, які быў у папярэдніх работах Белтраму, у барацьбе за зьмест ва ўсёй тканіне спэктаклю.

Пастаноўшчык ня здолеў як сьлед распрацаваць кожнае месца спэктаклю. Некаторыя рэжысэрскія распрацоўкі ня новы, паўтараюць ужо паказанае, нават у гэтайжа п‘есе. Фізкультурная канцоўка другога кругу—паўтараецца ў канцы спэктаклю. Цікава напісаная сцэна ў шахматным пакоі, дзякуючы слабай рэжысэрскай рабоце над гэтым кавалкам п‘есы, зусім згубілася.

Атрымалася, што рэжысэр доўга і старанна працаваў над тымі абразкамі, якія захапілі яго і амаль не працаваў над месцамі п‘есы, якія яму не спадабаліся.



Акт. Пішчык у ролі Гніды.

„Новы горад“ — гэта па сутнасьці першы спэктакль Белдзяржтраму са стаўкай на акторскую выразнасьць ігры. Быўшая раней сцэнічная бездапаможнасьць трамаўцаў і зьвязаныя з гэтым тэорыі аб роўнасьці актора са сьветам, музыкай і г. д., „тэорыі“ аб тым, што трамавец заўсёды „іграе самога сябе“, разьбіты канчаткова, адыйшлі ў галіну гісторыі.

На сцэне мы бачым актораў. Адны—дзякуючы сваёй здольнасьці, другія—упартай работай, здолелі стварыць рад добрых сцэн, рад цікавых вобразаў.

Чорнарабочы Гніда — былы бандыт (актор Пішчык) заклікае да „італьянкі“. Напружаны момант. І гледачу хочацца ўключыцца ў барацьбу, зьнішчыць вошы на савецкім арганізьме.

Былы бяспрытульны Смык, а цяпер—бэтоншчык Скрыпка ўступае ў камсамол. Расказвае аб сабе Смык, прыціх сход, прыціхла і заля. Хто, апрача тупой Зьнягінай (артыстка Дворкіна), устрымаецца ад прыёму Смыка—Скрыпкі ў камсамол?

Гуляе, п‘е лепшы бэтоншчык будоўлі Скакун Федзька. П‘яна ўзьвізгвае гармонік, выбіваюць дроб ногі. А ў бэтоншчыкаў—прарыў. Патрэбны ўмелыя рукі бэтоншчыка на будаўніцтве, ўмелыя рукі, але з цьвярозай галавой. Змагаецца жонка Скакуна, Гануля (артысткі Марголіна—Манацэвіч) за Хведзьку. Перамагла Гануля, але не канчаткова вылечан Хведзька. Нават пры заключэньні сацдагавору выпіць хоча. Але пераможа Гануля, з ёю ўвесь рабочы калектыў, уся заля.

Пастаноўшчык працаваў над п‘есай з тым, каб зрабіць больш выразнай фабулу „Новага гораду“. Але перамагчы недахопы п‘есы і ўзьняць драматургічны твор на больш высокую ступень, пастаноўшчыку не ўдалося. Вялікая праблема новага чалавека засталася недаапрацаванай нават у тым фабульным разгортваньні, якое мы маем у „Новым горадзе“.

Гэтыя недахопы ва многім накладныя выдаткі на маладосьць актораў і самога тэатру, на тыя цяжкія ўмовы, у якіх ствараўся гэты спэктакль. Тэатр быў бяз грошай, без памяшканьня, без неабходнага абсталяваньня. Ня ўсе цяжкасьці зараз зжыты, задача савецкай грамадзкасьці дапамагчы Белдзяржтраму замацоўвацца і расьці.

Перамагаючы цяжкасьці, створан спэктакль. Вадапад вясельля і радасьці льецца са сцэны ў залю.

...Паварот кола сцэны. Замерлі ў апошнім напружаньні рабочыя, інжынэры. Ток—уключан! ДРЭС—пушчана! Сіла і тэхнічная ўзброенасьць рабочага калектыву перамаглі...

... Заліхвацкі расьцягнуў гармонік Скакун. Закруціліся ўсе ў скоках, успыхнула ілюмінацыя. Сьвята адкрыцьця станцыі, сьвята электрыфікацыі—пачалося!

А на бегавых дарожках, ля футбольных брам, з кап‘ём у руках,—поўныя маладосьці і сілы трымаюць рабочыя экзамэн на гатоўнасьць да працы і абароны.

Моладзь клясы—пераможцы, умее і працаваць і весяліцца!



**Пролёг. Бяспрытульныя на пабудове.**



**Б. Дольскі—мастацкі кіраўнік Траму.**



**У. Станковіч—мастак.**









# КААПЭРАЦЫЯ ІНВАЛІДАЎ БССР ДА 15-ці ГОДЗЬДЗЯ КАСТР. РЭВАЛЮЦЫІ

(першая пяцігодка)

Валавая прадукцыя (у тыс. руб.)

| Фактычнае выкананьне | | | | Чакаем. выкананьне ў 1932 г. | Агульнае выкананьне за 4 гады |
|---|---|---|---|---|---|
| 28-29 г. | 29-30 г. | Ас. кв. 1930 г. | 1931 г. | | |
| 5955,5 | 6487,4 | 2174,7 | 9937,0 | 11412,5 | 35970,7 |

Зварот (у тыс. руб.) па гандлю

| Фактычнае выкананьне | | | | Чакаемае выкананьне ў 1932 г. | Агульнае выкананьне за 4 гады |
|---|---|---|---|---|---|
| 28-29 г. | 29-30 г. | Ас. кв. 1930 г. | 1931 г. | | |
| 3812,4 | 4489,5 | 1511,4 | 10928,7 | 11060,0 | 31802,0 |

Каапэрываваньне

| На І-Х—29 г. было каапэрывавана інвалідаў | Да канца пяцігодкі прадугледж. давесьці каапэрырав. да | Фактычна каапэрырав. на І-Х—32 г. |
|---|---|---|
| 1768 чал. | 3660 чал. | 23 3 чал. |

Капіталаўкладаньні ў (тыс. руб.)

| | 29-30 г. | Ас. кв. 30 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|---|
| Вызначана па пляну . . . | 245,3 | 95,0 | 500,0 | 1000,0 |
| Выканана . . . | 169,9 | 108,2 | 328,1 | 800,0 |
| % % выкананьня . | 69,3 | 113,9 | 65,6 | 80,0 да 1 верасьня |

Капіталы сыстэмы (у тыс. руб.)

| | 28-29 г. | 29-30 г. | На 1-І—31 г. | На 1-І—32 г |
|---|---|---|---|---|
| Асноўны капітал | 229,8 | 618,8 | 1.027,0 | 1.493,6 |
| Паявы капітал . | 146,9 | 163,6 | 173,3 | 271,3 |
| Інш. капіталы і фонды . . . | 442,6 | 554,3 | 813,5 | 1.3[illegible] |

ЦАНА 15 кап.

# РАЗЬВІЦЬЦЁ ПРАМКААПЭРАЦЫІ БССР













Белсаматужпрамсаюз арганізаваны ў 1926 годзе з колькасьцю арцеляй 85 і 817 каапэраваных па аб'яднаньнях

Далейшы рост наступны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| у 1926 г. — | 175 арцеляй | 1911 ка | |
| „ 1927 „ — | 265 „ | 4159 | |
| „ 1928 „ — | 617 „ | 10957 | |
| „ 1929 „ — | 799 „ | 18087 | „ |
| „ 1930 „ — | 935 „ | 31985 | „ |
| „ 1931 „ — | 1020 „ | 37302 | „ |
| „ 1932 „ — | 1253 „ | 46228 | „ |

## КАПІТАЛЬНАЕ БУДАЎНІЦТВА ПРАМКААПЭРАЦЫІ БССР

1928-29 г. — 1.468 т. р.
1929-30 г. — 1.596 „ „
1931 г. — 4.770 „ „
Першая палова
1932 г. — 2.818 „ „ + 933 т. = 3.751 т. р.

## КОЛЬКАСЬЦЬ АРЦЕЛЯЙ І КААПЭРАВАНЫХ ПА АБ'ЯДНАНЬНЯХ

| Назва аб'яднаньняў | Колькасьць арцеляй | Колькасьць каапэраван. |
|---|---|---|
| Торфаб'яднаньне . . . . . . . | 137 | 4245 |
| Аб'яднаньне будаўнічых матар'ялаў | 142 | 4018 |
| Лесахімічнае аб'яднаньне . . . | 57 | 2209 |
| Лесдрэўаб'яднаньне . . . . . . | 219 | 9566 |
| Утыльтрансаб'яднаньне . . . . . | 149 | 3967 |
| Харчасмакавае аб'яднаньне . . . | 49 | 1195 |
| Мэталёаб'яднаньне . . . . . . | 119 | 2927 |
| Скурабутковае аб'яднаньне . . . | 205 | 7826 |
| Тэкстыльнае аб'яднаньне . . . . | 176 | 10275 |
| Усяго . . . . . . . | 1253 | 46228 |

## ВАЛАВАЯ ПРАДУКЦЫЯ ПРАМЫСЛОВАЙ КААПЭРЦЫІ БССР

(па прадажных цэнах у тыс. рублей)

1926-27 г. — 9.750 т. р.
1927-28 „ — 19.931 „ „
1928-29 „ — 41.764 „ „
1929-30 „ — 70.000 „ „
Асоб. кв. — 25.940 „ „
1931 г. — 139.300 „ „
1932 г. — 220.000 „ „

...не Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ
...карня імя Сталіна. Зак. № 2889. 2.250 экз. Уп. Горліт № 1234.